# наша СВАБОДА

№61 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

26 ВЕРАСНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Югаславія на мяжы вызвалення

Павел КРЫЛЬСКІ

**У Югаславіі прайшлі выбары прэзідэнта. Мілошавіч ці Каштуніца? Ізаляцыя ці Еўрапейскі дом? Тупік ці перспектыва? Такія супрацьлеглыя накірункі развіцця звязваюць з імёнамі галоўных прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Вынікі галасавання ў панядзелак улады і апазіцыя падлічвалі асобна. Па звестках уладаў, цяперашні прэзідэнт СРЮ Слабадан Мілошавіч набраў 44% галасоў, а яго супернік ад 18 партыяў аб'яднанай апазіцыі Ваіслаў Каштуніца – 41%.**

Прыхільнікі Каштуніцы ў сваю чаргу сцвярджаюць, што пасля апрацоўкі паловы бюлетэняў Каштуніца лідзіруе з вялікім адрывам: ён набраў 57%, а Мілошавіч – 33% галасоў.

Агенцтва *Reuters* дае сваю інфармацыю, спасылаючыся на афіцыйныя і апазіцыйныя Мілошавіч крыніцы. Так, вядучы палітык апазіцыі Зоран Джынджыч заявіў, што па выніках апрацоўкі 310.909 бюлетэняў Ваіслаў Каштуніца атрымаў 49,6% галасоў, а Мілошавіч – 36,8%. Дэмакратычная апазіцыя Сербіі: апрацаваны вынікі з 45% выбарчых участкаў – у Каштуніцы – 57%, Мілошавіча – 33%. Каштуніца прадказаў сваю асабістую перамогу, заявіўшы, што па дадзеных з 1.237 выбарчых участкаў ён набраў 54,05%, а Мілошавіч – 33,81%. Правячая Сацыялістычная партыя распаўсюдзіла такія звесткі: больш 940.000 галасоў апрацаваныя, Мілошавіч – 44%, Каштуніца – 41%. Радыкальная партыя: апрацаваныя 1.937.734 бюлетэняў, Каштуніца – 53,53, Мілошавіч – 37,91%. Цэнтр свабодных і дэмакратычных выбараў: 308.002 люлетэняў, Каштуніца – 56,82, Мілошавіч – 34,23%.

Для перамогі ў першым туры кандыдат павінен набраць не менш паловы галасоў. У адваротным выпадку 8 кастрычніка адбудзецца другі тур.

Як бачна, дадзеныя аб выніках прэзідэнцкіх выбараў адрозніваюцца ў залежнасці ад таго, зыходзяць яны ад уладаў або ад апазіцыі. Кожны бок спяшаецца абвесціць аб сваёй перамозе.

Групы падтрымкі абодвух кандыдатаў сабраліся на суседніх пляцоўках Бялграда, каб святкаваць перамогу сваіх выбраннікаў. Іх раздзяляюць узмоцненыя нарады паліцыі, і ёсць усе падставы асцерагацца кровапраліцця.

Між тым выказваюцца сур'ёзныя сумненні, што Слабадан Мілошавіч, які знаходзіцца ва ўладзе ўжо 13 гадоў, прызнае сваю паразу. Назіральнікі ад еўрапейскіх краінаў і ад Расіі сабралі шматлікія доказы таго, як урадавыя чыноўнікі парушалі правілы правядзення галасавання.


Ваіслаў Каштуніца ў дзень выбараў

У Чарнагорыі ж агульнаюгаслаўскія прэзідэнцкія выбары аказаліся байкатаваныя: па словах намесніка прэм'ерміністра гэтай рэспублікі, насельніцтва адгукнулася на прызыў урада і яўка выбаршчыкаў склала ад 20 да 25 працэнтаў. Паводле заявы прэм'ерміністра Чарнагорыі Драгішы Бурзана, яго ўрад не сумняваецца ў паражэнні Слабадана Мілошавіча на прайшоўшых прэзідэнцкіх выбарах. Чарнагорскі прэм'ер таксама сказаў: «Мы верым, што Ваіслаў Каштуніца атрымаў поўную перамогу».

У Косаве выбарчыя ўчасткі былі адчыненыя толькі ў месцах кампактнага пражывання сербаў (а гэта пяць працэнтаў ад двухмільённага насельніцтва краю). Па словах кіраўніка часовай адміністрацыі ААН у Косаве Берара Кушнера, яўка выбаршчыкаў невысокая.

Сваё стаўленне да плебісцыту ў СРЮ выказваюць міжнародныя структуры і замежныя лідэры. Прадстаўнікі Еўрапейскага Саюза абнародавалі заяву, у якой папярэджваюць, што ўсялякія сцвярджэнні афіцыйнага кіраўніцтва Югаславіі аб быццам бы атрыманай перамозе Мілошавіча на прэзідэнцкіх выбарах з'яўляюцца безпадстаўнымі і заснаванымі на фальсіфікаванай інфармацыі.

Міністр унутраных справаў Вялікабрытаніі Робін Кук заявіў, што Мілошавіч павінен сысці – Кук сцвярджае, што мае надзейныя доказы паражэння югаслаўскага лідэра на выбарах.

Ёсць усе падставы правесці паралелі паміж югаслаўскай сітуацыяй і Беларуссю. Як для нашай апазіцыі, так і для Лукашэнкі гэта прыклад найбольш верагоднага сцэнару будучых выбараў прэзідэнта. Для Мілошавіча ў выпадку пройгрышу гэта не толькі крах палітычнай кар'еры, але і суд у Гаазе.

«Гэта ранак нашай свабоды», – сказаў раніцай 25 верасня 56-гадовы прафесар права і кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі Ваіслаў Каштуніца, калі югаславы запоўнілі вуліцы Бялграда і іншых гарадоў. ■

# Скоро грядет съезд победителей

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Перед затеянными властями парламентскими выборами, в Беларуси должны состоятся ряд массовых собраний. На 29 сентября намечено провести съезд депутатов, которые остались в различных органах власти после ноября 1996 года, когда путем референдума законодательная была поглощена исполнительной властью. Среди делегатов будут и представители народа, которые появились после весенних выборов в местные советы.**

Если кто помнит, судьбоносному референдуму 1996 года предшествовало так называемое Всебелорусское собрание, представительство которого было сомнительным. Предполагалось, что оно станет формой проявления прямой демократии в Беларуси. К примеру в Ливии, сплоченной не один год вокруг своего руководителя, она получила название Джамахирия. Однако за все четыре года, такой инструмент одобрения политики руководителя Беларуси так и не понадобился. Исправно пахали палаточные депутаты. Очевидно, что предстоящий съезд разного рода депутатов призван продемонстрировать всем успехи единомыслия, которое правящий режим достиг за последние четыре года. Можно уверенно сказать, что никаких оппозиционных межрегиональных депутатских групп на данной массовке создано не будет. Что весьма затруднительно утверждать в отношении другого съезда.

По некоторым данным, озабоченность с тревогой у власть имущих вызывает предстоящий съезд, который буквально накануне парламентских выборов, 11 октября проведет Федерация профсоюзов Белорусская (ФПБ). Ее считают одним из влиятельных оппонентов власти на сегодняшний день. Режим считает, что профсоюзы с нынешними своими руководителями, своей критикой истинного экономического положения страны мешают проводить тот курс, который проводит политическое руководство Беларуси.

После неудавшихся попыток добиться смены лидеров основных отраслевых профсоюзов была на вооружение взята тактика создания на предприятиях автономных профсоюзных организаций. Они уже получили название директорских, так как эти организации создают в приказном порядке руководители предприятий. Не секрет, что этой реконструкцией профессиональных союзов занимаются президентская администрация и некоторые другие структуры. Интересно, что ноу-хау они позаимствовали из исторического опыта создания польской « Солидарности», которая собрала под свои знамена отдельные заводские профсоюзы. Правда, с прямо противоположными целями. Разложив официальные профсоюзы,« Солидарность» сменила и политическую систему. В Беларуси же создаваемые автономные от ФПБ профсоюзы призваны укрепить существующую систему власти. Надо полагать, что, согласно существующему пониманию сути президентской власти, которое сравнивают с бытовавшим в 30-е годы в некоторых странах Европы, в Беларуси хотят создать из профсоюзов этакий Трудовой фронт. Для этого, как считают исполнители воли своего руководителя, надо лишь обезглавить ФПБ. По другой исторической аналогии XVII съезду ВКП(б), который назвали съездом победителей. И ему предшествовала бурная дискуссия о профсоюзах, ставшая очередным этапом укрепления той диктатуры. В условиях нынешней ситуации в Беларуси дискуссия о профсоюзах закончена. Предчувствуя свою участь, президиум совета Федерации профсоюзов Белорусской с явным опозданием призвал в своем Обращении от 13 сентября профсоюзный актив и всех членов профсоюзов противодействовать попыткам нарушения прав профсоюзов и раскола профсоюзного движения, не поддаваться на угрозы и запугивания.

*Продолжение на стр.2*

## НАВІНЫ

■ **Беларусы-такі здабылі залаты медаль на алімпійскіх гульнях у Сіднеі! І зрабіла гэта ўжо другі раз у жыцці ў акадэмічным веславанні Кацярына Карстэн,** (глядзі стар.8)

■ **У наваколлі Мінска створаны ландшафтны заказнік рэспубліканскага значэння «Прылепскі». Новы заказнік размясціўся ў лясным масіве на ўзгорыстай мясцовасці паміж Бараўлянамі і Раўбічамі і займае 3.242 гектары.** Разглядаюцца праекты стварэння яшчэ некалькіх заказнікаў. Усе яны дададуцца да спісу міністэрства прыроды з 93 заказнікаў, што займаюць каля 4% тэрыторыі Беларусі.

■ **Прычынай паловы смерцяў у Беларусі з'яўляюцца сардэчнасасудзістыя захворванні.** Чарга на аперацыі на сэрцы распісаная ажно да 2006 года. Кожны чацвёрты беларус мае ў арганізме падвышаны ўзровень халестэрыну, кожны трэці мужчына, старэйшы за 30 гадоў, хварэе на гіпертанію, што збольшага ёсць вынікам грамадска-сацыяльнага стрэсу. 45% мужчынаў паляць. Усе гэтыя фактары якраз і павялічваюць верагоднасць захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы ў 10-20 разоў. У выніку штогод толькі пасля інфаркту міякарда гіне 15 тысячаў беларусаў, а яшчэ 5 гадоў таму гэтая лічба складала 12 тысячаў падобных выпадкаў.

■ **Працы па правядзенні азімай сяўбы на Гомельшчыне пад пагрозай зрыву. Не стае грошай на дызельнае паліва, якога трэба яшчэ 6,6 тысячы тонаў. Гомельскі аблвыканкам знайшоў простае рашэнне – абавязаць 21 прамысловае прадпрыемства вобласці за ўласны кошт набыць неабходную колькасць дызпаліва.** У прыватнасці, Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод і «Беларуснафта» павінны закупіць па 1.000 тонаў паліва, Беларускі металургічны завод – 500 тонаў, «Гомсельмаш» – 110 тонаў. Прадпрыемствы сельскай гаспадаркі мусяць вярнуць гэты доўг да 1 лютага 2001 года.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1040



# Вочань карашо!

Аляксандр ДУБРАВІН

Надакучыла шукаць адны толькі хібы ў рабоце прэзідэнцкай каманды! Досыць крытыкі ў бок уладаў! Давайце знойдзем хоць што-небудзь станоўчае, прывабнае! Няўжо не вышукаем? А? Шэсць гадоў яны мітусяцца, выступаюць, праводзяць пасяджэнні, саджаюць людзей у турму, лётаюць на верталётах, разганяюць мітынгі. Нездарма ж гэта ўсё! Павінна быць нештачка добрае!

Так... Думаем толькі пра станоўчае.

Прыгожую плітку палажылі на праспекце Скарыны. Гладзенька ўраўнялі, даскана пясочкам перасыпалі. Малайцы, так і далей давайце! Проста карашо!

Пабудавалі колькі вялізарных свіранаў для хакея на лёдзе, у кожным абласным горадзе. Калі спатрэбіцца, дык можна там і шайбу паганяць, і цырк на дроце туды запрасіць, і форум вучашчайся маладзёжы арганізаваць. А калі не спатрэбіцца, дык можна і міма прайсці. Багата ўсё аздоблена, многа грошай асвоена! Гадоў дзесяць, мусіць, будуць стаяць без рамонта. Карашо!

Новыя стандарты якасці жыцця для вялізазных начальнікаў увялі. Раней Яфрэм Сакалоў ці Мікалай Слюнькоў у іхнім сацыялізме на задрыпаных «Чайках» каталіся, далікатэсы ціхенька пад коўдрай елі, ад людзей хаваючыся. Неканструктыўна саромеліся. У-га! Прайшлі ўжо тыя часіны. Зараз табе і тэнісы, і хакеі, і ўласны самалёт, і дванаццаць пакояў з унітазамі, і загарадныя рэзідэнцыі, і свой некантралюемы бюджэт, і «Мерсэдэс-600», і... І працаваць не трэба. Ганяй сабе шайбу з раніцы да вечара! І размаўляй. Усё як у людзей. Засталося астатні народ, мільёнаў дзесяць, падцягнуць да такога ўзроўню. А так – вочань карашо!

А святы? Якія магутныя святы пачалі рабіць! Калі такое было? Мусіць, толькі ў старажытным Рыме. Напрыклад, вазьмі ўсенароднае сямейнае свята «Да жынкі – ў Шклоў», або сусветны «Славянскі базар», каторым праславіўся Віцебск. Яно, праўда, само слова «базар» – не славянскае, і грошай надта многа цягне, але ўсё адно – вочань, вочань карашо!

А дружба! Забылі пра дружбу? Яна такая моцная, як ніколі! Дружба такая, што ўсё аддадзім, калі нават і браць не хочуць. Хутка і беларусы пачнуць спыняць глабальную агрэсію мусульманцаў у Таджыкістане ды Ічкерыі. Зброі нам дадуць – заваліся! От пастраляем! Карашо?

Каму карашо, а каго ўжо і ванітуе... ■

# Грядет съезд победителей

*Продолжение, начало на стр.1*

Открытым вызовом самому главе государства было воспринято в верхах назначение главным редактором печатного органа ФПБ еженедельника « Беларускі час» известного оппозиционного журналиста Александра Старикевича. Там же вспомнили, что он руководил Рабочей группой по созыву в июле с.г. злополучного для режима Всебелорусского съезда за независимость. Однако, как полагают некоторые наблюдатели, после повышения зарплаты с 1 октября, члены профсоюзов могут и не услышать призывов своих нынешних поводырей. Не в пользу ФПБ стало решение Международной организации труда (МОТ) до парламентских выборов не присылать свою делегацию для ознакомления с складывающейся ситуацией вокруг ФПБ. Властями активно используется, в различных формах пропаганды, информация о подрывной роли американских профсоюзов АФТ-КПП. Именно из-за грубого вмешательства властей и игнорирование прав профсоюзов Беларусь лишили в этом году американских преференций в торговле. Буквально по пальцам можно пересчитать те страны в мире, которые удостаивались такой «чести». Кстати, по словам председателя Свободного профсоюза Белорусского Геннадия Быкова, некоторые «прирученные» властями профсоюзы умудряются получать помощь от зарубежных демократических профобъединений. Тем самым, как и в случае с некоторыми другими неправительственными организациями, средства идут фактически на укрепление антидемократического режима в Беларуси.

И если планы властей в отношении предстоящего 11 октября съезда ФПБ в общем-то понятны, то пока противоречивой остается информация о фигурах, которыми власти хотят заменить нынешнего председателя ФПБ Владимира Гончарика. Одной из таких в кулуарах называют главу президентской администрации Михаила Мясниковича, которому не привыкать к профильным сменам. Похоже, за президентские годы он уже со всем смирился. После возвращения первым заместителем Владимира Заметалина с появившемся двоевластием в веренной ему администрации тоже. Правда некоторые его доброжелатели такую кротость «талисмана номенклатуры», коим считают М. Мясниковича, склонны воспринимать, как усыпление бдительности. На вопрос: кого? Многие чиновники обращают свои взгляды вверх. А там предвкушают очередную победу над своими врагами.

Свое мнение о профнепригодности лидера ФПБ власти добавили решением не регистрировать Гончарика кандидатом в депутаты на предстоящих выборах в нижнюю палату. Так что для профбосса съезд станет последним и решительным... Впрочем, как и для многих других его делегатов. ■

АКЦЫІ



## Колокол «Ангел»

центре Минска, рядом с Красным костелом, появился необычный памятник - точная копия колокола «Ангел», уцелевшего после атомной бомбардировки американцами 9 сентября 1945 года японского города Нагасаки. Известно, что начиненная плутонием бомба взорвалась в 50 метрах от кафедрального католического собора Ураками.

Однако «Ангел» уцелел под развалинами, и его, спустя некоторое время, откопали прихожане. С тех пор колокол-жертва находится в центре Нагасаки и своим ежедневным звоном предупреждает людей о страшных последствиях войны.

По инициативе католической церкви Японии «двойник» «Ангела» был отлит в дар белорусскому народу мастерами колокольного литья и установлен на площади Независимости как напоминание о новой ядерной беде - Чернобыльской. «Пусть этот памятник символизирует нашу солидарность с Беларусью и то, что наши народы связывают не только экономические и культурные, но и духовные связи», - заявил настоятель Нагасакского храма Ураками Сиети Мимура на открытии памятника.

open.by

# Оркестр Финберга будет играть на заводах

О новом проекте своего коллектива заявил народный артист Беларуси профессор Михаил Финберг. В октябре Государственный концертный оркестр Республики Беларусь начинает цикл концертов в цехах крупнейших предприятий страны. «В обеденный перерыв» - так называется этот цикл. А первыми лучших музыкантов и солистов оркестра услышат тракторозаводцы и жлобинские металлурги. Вечером того же дня все жители Беларуси смогут увидеть его в записи по Первому национальному телеканалу и послушать по белорусскому радио. ■

# У Мінску паболее сметніцаў

Кірыла ПАЗЬНЯК

Мінск па нейкай завядзёнцы лічыцца адным з самых чыстых еўрапейскіх гарадоў. Хоць недапалкаў, абгортак ад марозіва ды цыгарэтных пачкаў тут кідаецца процьма дзе заўгодна, але толькі не ў сметніцы. Многія, хто так робіць, апраўдваюцца, што пад рукой, калі трэба, не аказваецца урнаў. Праверыць, наколькі прычына менавіта ў гэтым ці ўсё ж у побытавай бескультурнасці, можна будзе ўжо бліжэйшым часам.

Мінгарвыканкам выдаў ухвалу «Аб упарадкаванні ўстаноўкі збору смецця на тэрыторыі горада Мінска». Дзеля «паляпшэння добраўладкавання» і санітарнага стану горада. Гэтая пастанова забавязвае ўсіх суб'ектаў гаспадарання незалежна ад формаў уласнасці да 1 траўня наступнага года набыць, прычым за свой кошт, сметніцы і паставіць іх каля ўваходаў. На прыпынках, каля кожнага асобнага ўваходу ў крамы і іншыя будынкі, апрача жылых дамоў, а таксама на ўездзе на аўтастаянкі і паркінгі мусіць быць усталявана па дзве урны. Па адной – каля гандлёвых шапікаў плошчай да 15 кв.м. і на кожныя 1.500 кв.м. харчовых, рэчавых і аўтамабільных рынкаў. Відаць, дзеля заахвочвання, гаворыцца, што наяўнасць сметніцаў стане «абавязковай умовай для дазволу на права заняткаў пэўным відам дзейнасці». Разам з тым на вуліцах, пляцах і скверах сметніцы павінны будуць стаяць праз кожныя 40 метраў у тлумных месцах і праз 100 метраў – у малалюдных.

Да 1 кастрычніка «Гаррамаўтадар» правядзе конкурс, каб вызначыць прадпрыемства, якое зоймецца вырабам урнаў. Узор сметніцаў ужо распрацаваны. Гэта будуць бакі з рознакаляровага шклапластыку на металічнай «назе». Падобныя урны стаяць па ўсёй Нямеччыне, а нядаўна з'явіліся ў Вільні. Каштаваць гэтыя сметніцы будуць каля 100 долараў. ■

# М.Мясніковіч хоча ўзначаліць ФПБ?

Рыгор БУЯН

10-11 кастрычніка ў Мінску адбудзецца чарговы справаздачна-выбарчы з'езд Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Аднак відавочна, што ўлада паспрабуе рэалізаваць – хоць часткова – план па замене няўгодных прафсаюзных лідэраў. У палітычным закуліссі ходзяць чуткі, што ўлада паспрабуе замяніць лідэра афіцыйных прафсаюзаў, выставіўшы Уладзіміру Ганчарыку альтэрнатыўную кандыдатуру ў асобе кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча.

Сцэнарый уладаў па замяшчэнні няўгодных прафлідэраў, які ўлады спрабуюць ажыццявіць з канца красавіка, церпіць крах. Спачатку не ўдалося змясціць старшыню прафсаюза работнікаў АПК Аляксандра Ярашука на экс-міністра сельскай гаспадаркі Юрыя Мароза, затым правалілася спроба замяніць старшыню АСМ Аляксандра Бухвостава, а зусім нядаўна закончылася поўным фіяска замяніць на свайго чалавека старшыню прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці Генадзя Фядыніча. Незадаволенасць «палітыканствам» гэтых дзеячаў выкліканая тым, што менавіта гэтая тройка накіравала ў МАП скаргу на парушэнне правоў прафсаюзаў, і менавіта яна выклікала найбольшае раздражненне ўладаў. ■

# За байкот працягваюць штрафаваць

Алесь ШМЯЛЁЎ

Намеснік старшыні партыі БНФ, вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі быў асуджаны ў пятніцу судом Партызанскага раёна на штраф у два мінімальныя заробкі (пяць долараў ЗША) за тое, што ўдзельнічаў 21 верасня ў сустрэчы з выбаршчыкамі, на якой раздаваліся спецвыпускі незалежных газетаў, а таксама тлумачылася людзям, чаму трэба байкатаваць выбары. На такую ж суму быў аштрафаваны актывіст БНФ Сяргей Шынкевіч. Судовая машына не здолела перамагчы толькі довадаў намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі, суд над ім адкладзены. Як і раней, міліцыянты пры складанні пратакола і суддзя кіраваліся толькі кодэксам аб адміністратыўных правапарушэннях, а новы Выбарчы кодэкс ігнаравалі. І гэта нягледзячы на супрацьлеглыя завярэнні старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай аб тым, што ў выпадку, калі адзін закон абвяргае іншы, павінен дзейнічаць той, які быў прыняты пазней. А гэта – Выбарчы кодэкс. ■




# Прафсаюзы вымагаюць Закона аб ахове працы

Ася КУНІЦКАЯ

Кожнае пятае прадпрыемства Гродзенскай вобласці – стратнае, кожная пятая сям'я знаходзіцца за рысай беднасці, а 13 тысяч чалавек маюць афіцыйны статус беспрацоўных.

Старшыня савета Аб'яднання прафсаюзаў Гродзенскай вобласці, дэпутат абласнога Савета дэпутатаў Ірэна Шылконь зазначыла, што прафсаюзам даводзіцца працаваць ва ўмовах пастаяннага паглыблення эканамічнага крызісу, росту сацыяльнай напружанасці ў працоўных калектывах, зніжэння жыццёвага ўзроўню, ушчамлення працоўных правоў і гарантыяў. Новыя ўмовы гаспадарання далёка не заўсёды ўлічваюць патрэбы канкрэтнага чалавека: узрастае колькасць скаргаў па затрымках зарплаты, парушэнні аховы працы, незаконных звальненнях. У гэтых умовах, падкрэсліла старшыня савета аб'яднання, прафсаюзам вельмі важна згуртавацца ў справе абароны інтарэсаў працоўных і дамагацца прыняцця Закона аб ахове працы. ■

БелаПАН

# Студэнты выйгралі суд у мінюста

Таццяна ПАПОВА

Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі 22 верасня адмяніў папярэджанне, вынесенае грамадскай арганізацыі «Задзіночанне беларускіх студэнтаў» (ЗБС) міністэрствам юстыцыі. Суддзя Петухова абвясціла папярэджанне мінюста несапраўдным. Нагадаем, што міністэрству не спадабалася выкарыстанне слова «Менск» на афіцыйным бланку арганізацыі і яно вынесла ЗБС папярэджанне.

На судзе прадстаўнік мінюста пераконваў суддзю ў тым, што афіцыйныя дакументы мусяць утрымліваць запісы, што адпавядаюць правілам, якім вучаць дзяцей у школах. ЗБС настойваў на існаванні двух стандартаў беларускага правапісу — «наркамаўкі» (існуючага зараз) і «тарашкевіцы» (дзеючага да рэформы 1933 года). У якасці аргументаў выкарыстоўваліся спасылкі на друкаваныя выданні, што выходзяць на «тарашкевіцы».

У выніку суддзя Вышэйшага гаспадарчага суда адмяніла папярэджанне і пастанавіла спагнаць з мінюста на карысць ЗБС 52 тысячы рублёў. ■

БелаПАН

# Блеф и тщета куртизанок




Александр ДУБРАВИН

*(Начало в №№ 56-- 60)*

**Поллюция социал--демократов.**

За две недели до голосования мы совершенно уверенно можем сделать вывод, что те оппозиционные политики, которые пошли на эти выборы — либо политики незрелые, недалёкие, скороспелые, авантюристичные, либо продажные политиканы и провокаторы, либо не политики вовсе. Теперь, когда тайное стало явным для всех, и уже не вызывает ни малейшего сомнения тот факт, что этот режим не способен даже на инсценировку справедливых и демократичных выборов, на страницах газет разом стихли все бодрые заявления из стана утопических политиков. Но давайте вспомним их нелепые планы накануне процедуры регистрации кандидатов. Ведь нам, в частности, очень важно понять, что же на самом деле происходит в рядах БСДП (НГ) — партии, которую, в отличие от ПКБ или ЛДПБ, с полным на то основанием называют оппозиционной. Это партия боевого, мобильного, организованного сопротивления. Она по праву занимает видное место в основном триумвирате белорусских организаций — борцов с режимом, а ее лидер Николай Статкевич показал себя человеком не робкого десятка. Он, в частности, принял на свои плечи основную тяжесть ответственности за прошлогодний октябрьский Марш Свободы.

Так что же понесло эсдеков на рифы лукашенковского фарса? Теперь, когда ряды их кандидатов значительно поредели, есть надежда, что эсдэки найдут в себе силы признать свою стратегическую ошибку. Ведь потеря такого союзника крайне нежелательна для объединенной оппозиции, она способна значительно ослабить ее. Прежде чем выдвигать свои версии, мы рассмотрим все их резоны, изложенные на тематической полосе БСДП(НГ) в «Народной Воле» за 8 сентября с.г. Наиболее концентрированно эти резоны представил Виталий Малашко в своем материале «Кто объединяется против социал-демократов?». Итак, что же планировали делать утопические политики после своего избрания в палату? Цитирую: **« — через «палатку» начать разложение номенклатуры изнутри; — пропагандировать свои партийные программы; — критиковать власть и ее представителей за казенный счет; — аккумулировать протестную часть населения, которая неизбежно активизируется во время выборов; — возобновить навыки предвыборной борьбы. Мужчины знают, что бывает от слишком долгого воздержания».**

Ничего конкретного не могу сказать на тему «аккумуляции населения» и тех форм, в которых эсдеки собирались это делать (не владею такими глобальными технологиями накопления), но по поводу всего остального, а тем паче длительного воздержания, мое мнение, как и мнение общественности уже сформировались. Когда мы сегодня видим в какой--нибудь занюханной «Панораме», как потомка белорусского шляхетского рода Николая Статкевича валяют в грязи и пинают ногами жалкие и отвратительные лакеи режима; когда все, кому не лень, поносят с телеэкрана его партию, мы очень отчетливо понимаем, что за казённый счет у режима можно получить только плевок в физиономию с расстояния в полметра и что пропаганда партийных программ социал--демократов в государственных СМИ по каким--то причинам сильно задерживается. Почему--то получается все против ожиданий: власть и ее представители за казённый счет измываются над социал--демократами, критикуют их и не дают приобрести устойчивые навыки борьбы. Конечно, мне лично очень хотелось бы посмотреть, как господин Малашко стал бы разлагать изнутри, к примеру, товарища Малофеева, но вряд ли это случится в обозримом будущем: они не встретятся. А если бы и встретились, то я не позавидовал бы г--ну Малашко. Короче говоря, после длительного предвыборного воздержания, у эсдеков вместо полноценного и содержательного акта получается поллюция: возбудились, подсуетились, вскарабкались, а дальше их и не пустили. Произошло то, о чем предупреждали Николая Статкевича все серьезные белорусские политики. Пошли за шерстью, а вернулись стрижеными.

О чем это свидетельствует? О том, что руководство БСДП (НГ) в нынешнем его виде не способно просчитать не только отдаленные последствия того или иного партийного решения, но бывает беспомощно при определении самой ближайшей перспективы. Очевидно, что после 15 октября в Народной Громаде должны произойти существенные перемены. Те люди, которые принимали решение об участии в выборах, должны немедленно отойти от руководства, как незрелые и недальновидные политики, ввергнувшие партию в ненужные испытания, от которых в значительной мере пострадала ее боеспособность. В БСДП уже сегодня наметился серьезный раскол. Молодежное крыло партии уже публично сообщило о своей особой точке зрения на участие в выборах и на дальнейшую стратегию развития социал--демократии в стране.

Вместе с тем нельзя умолчать и о других возможных причинах участия социал--демократов в лукашенковском спектакле. Первую из них, упорно повторяемую, о принадлежности верхушки партии к неким силовым структурам нынешнего режима я не стану развивать в силу отсутствия сколько--нибудь серьезных фактов. Вторая версия более реальна. Вполне возможно, что на участие в лукашенковском спектакле БСДП подвигли ее немецкие стратегические союзники. Как известно, у Статкевича налажены очень тесные контакты с немецкими эсдеками, которые, как сообщают независимые эксперты, весьма заинтересованы в реализации долговременных планов «Ругргаза» и «Газпрома» по транзиту газа в Европу. Есть предположения, что они не возражали бы против легализации нынешнего промосковского режима. ■

*(Продолжение следует)*

# Чыста палітычнае рабаўніцтва?

Рыгор БУЯН

Беларускае грамадства страсянуў чарговы палітычны скандал. У ноч з 21 на 22 верасня штаб-кватэру БСДП (Народная Грамада) абрабавалі невядомыя: пашкоджаныя камп'ютэры, скрадзеныя партыйныя дакументы ды каля 6 тысячаў доляраў, – ахвяраванняў грамадзянаў. Лідэр Народнай Грамады не сумняваецца ў палітычнай падаплёцы начнога налёту.

Каля 22.30 пад выглядам сябраў партыі з Гомеля двое невядомых (30 і 40 гадоў) папрасіліся ў штаб-кватэру Народнай Грамады нібыта пераначаваць. Аднак як толькі невядомыя апынуліся ў памяшканні, яны надзелі маскі, пальчаткі і пад пагрозай пісталета прымусілі чатырох студэнтаў легчы на падлогу. А пасля прыкладна з гадзіну злачынцы метадычна рыліся ў партыйных архівах, найперш іх цікавілі спісы ахвярадаўцаў, папсаваныя камп'ютэры, скрадзеная база дадзеных Грамады – усё гэта нанесла непапраўную шкоду выбарчай кампаніі.

Прыбыўшыя апоўначы на месца здарэння супрацоўнікі Савецкага РАУС забралі з сабой пацярпелых і пратрымалі іх да паўдня наступнага дня ў пастарунку, складаючы фотаробаты злачынцаў. Лідэр Народнай Грамады Мікола Статкевіч называе начны налёт «акцыяй дзяржаўна-палітычнага тэрору». «Гэта звязанае з удзелам сябраў партыі ў выбарах. Мэтай нападу было атрыманне інфармацыі аб сябрах партыі, якія ўдзельнічаюць у выбарах, у першую чаргу, тых нашых прыхільнікаў, якія зарэгістраваныя як беспартыйныя кандыдаты», — заявіў Мікола Статкевіч. З 16 прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты, вылучаных Грамадой, якія ўказалі сваю партыйную прыналежнасць, зарэгістраваныя толькі 6; з 13 чалавек, што замоўчалі пра членства ў партыі, зарэгістраваныя 10. Адсюль кіраўніцтва Грамады і зрабіла выснову пра палітычныя матывы рабавання.

У той жа час на экстраннай прэс-канферэнцыі 23 верасня в.а.міністра ўнутраных справаў Міхаіл Удовікаў абверг дачыненне спецслужбаў да начнога рабавання. Чыноўнік заявіў, што версія М.Статкевіча «не вытрымлівае ніякай крытыкі». Гэтую выснову ён зрабіў на падставе паказанняў пацярпелых. Некаторыя пункты паказанняў у в.а.міністра «выклікаюць сумненне і здзіўленне»; напрыклад, так і незразумела М.Удовікаву, чаму пацярпелыя звярнуліся ў міліцыю толькі праз гадзіну пасля ад'езду злачынцаў. Начальнік крымінальнай міліцыі МУС Мікалай Лапацік заявіў, што дагэтуль не знойдзеныя сляды знаходжання злачынцаў у раёне офіса БСДП (НГ).

Першамайскі РАУС узбудзіў крымінальную справу па артыкуле «Разбойны напад», які прадугледжвае пазбаўленне волі ад 6 да 15 гадоў.

Унутрыпартыйная апазіцыя, якая не падтрымлівае палітыку Міколы Статкевіча адносна выбараў і якая аб'ядналася ў асобную фракцыю, устрымліваецца пакуль ад публічных каментарыяў адносна рабавання. Такое маўчанне тлумачыцца тым, што Аляксея Караля, Анатоля Сідарэвіча ды іншых партыйцаў, нязгодных з удзелам сябраў Народнай Грамады ў выбарах, выклікаюць у РАУС на допыты. Член Цэнтральнага камітэта Грамады Леанід Лойка, які згадзіўся выказаць свае адносіны да інцыдэнту, лічыць надуманымі заявы лідэра партыі пра палітычную падаплёку рабавання. ■

ПОШТА

# Белорусские радиофашики

**В нашей белорусской радиосети живут маленькие похожие на птичек с двумя головками на одной шее монстры – радиофашики. Их назначение и наслаждение – сыпать на разум слушателей идеологический радиомусор. Часто этот мусор сыпется как из мусоропровода. Особенно в те часы, когда радиопередачи слушает наибольшее количество населения.**

Например, в обеденный час в эфир вылетает передача «Разговор по существу». Ведет ее сладкоголосая журналистка Нина Чайка. Слушать эту передачу можно, если хочешь стать идиотом, не по Достоевскому, а действительным, потому что более тенденциозной и лживой передачи не было в природе в постсталинские времена. Лучше поэтому не слушать. Но поскольку радиообслуживание у нас носит принудительный характер (например, в учреждениях, на заводах и фабриках), то, естественно, очень трудно избежать встречи с радиофашиками. В пятницу вот таким принудительным образом множеству людей пришлось услышать радиомерзость, которую сочинил некий политолог Николай Сергеев, приглашенный в передачу ведущей Чайкой. Вознося чистым московским говорком хвалу извечной дружбе «Белоруссии» и России, этот специалист в политической лжи назвал имена Тадеуша Костюшки и Кастуся Калиновского. Николай Сергеев, подло куражась, определил Калиновского «бандитом-террористом, который убил 2 тысячи белорусских крестьян, стараясь оторвать Белую Русь от Великой России». Завершила тираду радиофашика пожелание изъять из учебников и учебных программ упоминания о белорусских героях-повстанцах, чтобы «наши дети ничего о них не учили».

Подобные речения сергеевых и подобных радиомонстриков означают, что пятая колонна распоясалась вконец, получив информационное пространство и поддержку государства и его же юридическую защиту. Будь иначе, политолог Сергеев сто раз подумал бы, насколько допустимо и пристойно ёрничать в адрес человека, который возглавил народное восстание и отдал жизнь за свободу. И вот такое злобное существо допущено к радиорупору. Минюст, который угрожает закрытием партиям и объединениям за написание историческаого названия белорусской столицы «Менск» вместо «Минск», еще ни разу не предъвил претензий и не выставил предупреждения разбушевавшимся радиофашикам, которые разжигают межнациональную ненависть и оскорбляют честь и память национальных героев Беларуси. Интересно, получит ли Чайка и Белорусское Радио предупреждение о прикрытии своих «разговоров по существу» в случае новых мерзских речений в адрес белорусской истории и ее святых имен? ■

**Виктор ТАМАШ, г. Минск**

АСПЕКТЫ

# Выхаванне скуралупаў

Сяргей МАКСІМОВІЧ

Гэтым летам у гродзенскіх газетах з'явілася некалькі публікацыяў, у якіх выкрывалася нялюдская практыка знішчэння камунальнай службай катоў і сабак, у якіх няма гаспадароў. Па горадзе ездзіць машына з адкрытым кузавам, у якой грудам навалены мёртвыя і параненыя звяркі. Іх добра відно з вокнаў ужо другога паверха. Бачыў іх і аўтар гэтых радкоў. Тых, каго не забілі ў дварах і на вуліцах, расстрэльваюць за горадам на смецішчы, жудасныя здымкі якога былі змешчаныя ў адной з газетаў.

Здавалася б, улады пасля гэтага крыху зменшылі забойчы імпэт. Аднак тут у прыгарадзе было злоўлена лісяня, хворае на шаленства. Фактаў захворвання жывёлаў у самім горадзе не было, аднак крывавае паляванне распачалося з новай сілай. Прычым камунальшчыкі звярнуліся «па дапамогу грамадскасці». У цэнтры горада на дзвярах пад'ездаў з'явіліся аб'яўкі наступнага зместу: «ЖЭС-1 паведамляе, што дарожна-эксплуатацыйнае ўпраўленне ажыццяўляе прыём бадзяжных жывёлінаў (катоў, сабак). Разлік за здадзеных жывёлінаў адбываецца на месцы. Кошт: кот — 4%, сабака — 9% ад мінімальнага заробку. Заўвага: на 12.09.2000 г. кошт ката — 95 руб., сабакі — 234 руб.».

У Старым горадзе ў цэнтры Гродна якраз шмат хто мае хатніх жывёлінаў, асабліва катоў. У жыхароў цынічная нялюдская аб'ява выклікала абурэнне. Цана жыцця — адна булачка з макам альбо порцыя самага таннага марожанага. На каго спадзяюцца ўлады? Хіба што на бамжоў і на дзяцей. Маўляў, хлопчык, зламі коціка, прынясі нам, адразу атрымаеш на марожанае. Зразумела, што ва ўладаў няма ілюзіяў адносна таго, што дзеці не будуць ведаць, што здарыцца затым са злоўленымі катамі і сабакамі. Іх — заб'юць. Адной «брыгады смерці» аказалася замала, далучыць да забойства вырашылі дзяцей. У колішнія часы выхоўвалі Паўлікаў Марозавых, якія здавалі НКВД сваіх бацькоў. Цяпер вырашылі выхоўваць скуралупаў. Міжволі з замілаваннем успомніш аб існаванні ў савецкія часы клубаў юных натуралістаў, дзе школьнікаў вучылі любіць звяркоў. Узгадаеш і аб тым, як выхоўвалі будучых эсэсаўцаў у гітлераўскай Германіі: давалі выгадаваць труса або кацяня, а потым прымушалі забіць звярка.



Летам жа ў газетах заявіла аб сабе таварыства, якое жадае ахоўваць жывёлінаў. Няма толькі грошай. Замест таго, каб дапамагчы гэтым людзям стварыць хаця б які прытулак для бадзяжных жывёлінаў, улады цынічна выдзелілі грошы на марожанае для дзяцей і дарослых з садысцкімі схільнасцямі. Прычым, з'яўленне аб'яваў было прыспешана тым, што з 1 кастрычніка падвысяць мінімалку, і за злоўленага ката давядзецца плаціць рублёў на 20-30 больш. У краіне, дзе жыццё чалавека ніколі нічога не каштавала, жыццё жывёлы ўвогуле — нішто. 95 рублёў. Хай жа нашыя ўлады не наракаюць крывадушна на амерыканскія кінабаевікі, у якіх поўна забойстваў і крыві. Перш за ўсё жорсткасць і нялюдскасць выхоўваюць у моладзі самі ўлады. Сваімі юдавымі дзевяноста пяццю рублямі на марожанае. ■

# Забытый геноцид

**В США подкомитет по международным отношениям Палаты представителей одобрил резолюцию, призывающую Билла Клинтона «оценить систематическое и умышленное уничтожение 1,5 млн. армян как геноцид». Премьер-министр Турции Бюлент Эджевит отверг попытки Конгресса США обвинить свою страну в геноциде 85-летней давности против армянского народа.**



Массовое уничтожение армян в начале XX века часто называют «забытым геноцидом». 22 августа 1939 года Адольф Гитлер перед вторжением в Польшу инструктировал эсэсовцев: «Безжалостно истреблять мужчин, женщин и детей. Не опасаясь последствий». «Кто сейчас помнит армянскую резню?», — так фюрер аргументировал свою речь.

Официально началом геноцида армян в Турции во время первой мировой войны считается 24 апреля 1915 г. Уничтожение армян было организовано центральным комитетом Партии Младотурков, который возглавляли Мехмед Талб, Исмаил Энвер и Ахмед Джемал. Младотурки были ультранационалистическим движением, пришедшим к власти в Османской империи в 1912 году, под знаменем возрождения Турции. Армяне стали жертвой великодержавной политики «пантуркизма».

*Дата начала геноцида может быть отодвинута назад на два месяца.* 27 февраля 1915г. Энвер направил командующим турецкими армиями шифрованную телеграмму, где говорилось: *«Всех подданных Османской империи армян старше пяти лет выселить из городов и сел и уничтожить... всех служащих в армии армян изолировать от воинских частей и расстрелять».*

24 апреля 1915 года – это дата погрома в Константинополе, унесшего пять тысяч жизней, а также уничтожения турецкими властями нескольких сот армянских лидеров — политической и интеллектуальной элиты нации. Всего за 1915-16 гг. турки истребили полтора миллиона армян. Частью погибла в погромах и резне, остальные умерли от голода.

*Ликвидация армян началась с молодых мужчин, призванных в армию под предлогом военного положения.* Их разоружили и уничтожили. Выживших после прокатившейся в первой половине 1915 г. волны погромов армян турки вели через пустыню в концентрационные лагеря, оправдывая свои действия необходимостью «перемещения» их из зоны военного конфликта. Десятки тысяч погибли по дороге от голода и жажды. «Перемещенных» армян грузили на баржи, которые затем топились в Черном море.

15 сентября 1915 г. тогдашний министр внутренних дел Турции Талаат посылает в префектуру города Алеппо телеграмму №502: «Уже сообщалось, что по приказу Джемиета правительство решило полностью уничтожить всех армян, проживающих в Турции. Те, которые воспротивятся этому приказу и данному решению, будут лишены гражданства. *Невзирая на женщин, детей и больных, какими бы трагичными ни были методы уничтожения, не внимая голосу совести — положите конец их существованию».*

Сообщения военных корреспондентов тех лет свидетельствуют о том, что мир был в курсе происходящих событий. Американский посол в Турции Абрам Элкус сообщал в 1916 году, что *«младотурки продолжают политику уничтожения армян... по жестокости не имеющей аналогов в турецкой истории».* Катастрофа была остановлена только после поражения Турции в войне и образования Армянской республики. К тому времени в Турции армян практически не осталось.

На Лозаннской конференции 1923-1924 гг. английская делегация заявила, что, по далеко не полным данным, *в результате геноцида в 1915 г. погибло 3,5 млн. армян. Армянская делегация, опираясь на данные Армянской церкви, указывала на 6-7 млн. жертв. Турецкая же делегация на этой конференции выдвинула цифру в полтора миллиона жертв.*

*Единственным турецким правителем, признавшим геноцид армянского народа, был Дамад Ферит Паша, пришедший к власти после падения Младотурков. Бывшие турецкие лидеры были приговорены к смертной казни за военные преступления.*

По мере изменения международной обстановки и изменений внутри самой Турции, факт геноцида армян стал замалчиваться — дабы не раздражать «прозападную», «либеральную» Турцию — с одной стороны, и не способствовать росту армянского национализма — с другой. Армяне до сих пор добиваются международного признания катастрофы 1915 года. ■

**utro.ru**

# Французы решили сократить срок своему президенту

Во Франции завершился референдум по вопросу о сокращении срока президентского правления с 7 до 5 лет, сообщает компания НТВ.

По данным социологов, которые проводили опрос граждан на выходе с участков для голосования, подавляющее большинство французов поддержали идею сокращения президентского срока. Число людей, утвердительно ответивших на вопрос референдума, превысило семьдесят процентов.

Между тем свое отношение к реформе президентской власти высказали сегодня лишь тридцать процентов граждан, имеющих право голоса. Однако, несмотря на столь низкую явку, референдум признан состоявшимся. ■

# СУ-24 сгорели накануне ревизии

**Екатерина ПОЛОНСКАЯ**



В ночь с субботы на воскресенье на территории двадцатого авиаремонтного завода (город Пушкин под Санкт-Петербургом), принадлежащего Центральному управлению авиации ВМФ России, произошел пожар одной из наивысших степеней сложности. В результате якобы стихийного возгорания сгорели три боевых самолета Су-24 стоимостью 15 миллионов долларов каждый.

По словам местных жителей, полыхнуло около одиннадцати часов ночи по московскому времени. Причем, надо отметить, что полыхнуло сильно. Согласно первичным данным, возгорание произошло на крыше ангара. Того самого ангара, в котором находились злополучные штурмовики. Два из них, по информации НТВ, стояли там в ожидании планового ремонта, а еще один должен был пойти на списание.

Сигнал на пульт дежурного поступил лишь 43 минуты спустя после начала пожара. В результате, к появлению пожарных пламя бушевало уже вовсю. Огонь охватил уже не только крышу, но и весь ангар. В общей сложности огнем оказалась охвачена территория размером 250 на 50 метров.

К зданию было стянуто почти 30 пожарных расчетов и 24 единицы противопожарной техники. Однако все усилия оказались напрасны: спустя два часа, как сообщили в северно-западном центре МЧС, здание ангара рухнуло, погребя под собой дорогостоящие самолеты.

На данный момент в качестве основной рассматривается версия о поджоге. Дело в том, что, по неофициальным данным, полученным телекомпанией НТВ, в ближайшие дни на завод должна была нагрянуть ревизионная проверка. Поэтому, как предполагает следствие, не исключено, что кто-то из заводского руководства пытался замести недостачу и для этого устроил пожар. Версия о теракте и о «чеченском следе» была отвергнута практически сразу. ■

# «Курск» погубили подъемные краны

**Владимир Темный**

**Одна из самых необъяснимых загадок «Курска» — мощь взрыва внутри корабля. На учения атомные подводные крейсера выходят с учебными торпедами. Но если даже учесть суммарную мощь так называемой «морской смеси», которой начиняют учебную торпеду, то и тогда разрушения прочного корпуса не могли носить такого катастрофического характера. Все становится на свои места, если допустить, что на стеллажах субмарины были «сигары», начиненные боевым зарядом.**

*Vesti.Ru* получили достоверную информацию из военных источников, что К-141 вышла на учение с тем же арсеналом, с которым несла около шести месяцев боевое дежурство на арктических курсах.

Любой подводник знает: после автономки (дальнего похода) лодка прежде всего встает под разгрузку оружия, начиненного реальным боевым зарядом. Сдал оружие — швартуйся к родному причалу. Однако в мае, когда «Курск» вернулся в базу, подъемные краны базы хранения оружия были опечатаны гостехнадзором. Железо обветшало настолько, что первая же погрузка-разгрузка, по мнению инспекции, могла привести к серьезной аварии. Командующий Северным флотом Попов еще в апреле начал бомбить Москву тревожными посланиями, но ответа так и не дождался.

Скорее всего, командир К-141 был поставлен перед фактом: «Курск» должен принять участие в очень важных для флота учениях. Несмотря на то, что на борту учебных торпед нет, а сплошь — с многокиллограммовыми тротиловыми начинками. Возможно, уже в море одну из торпед попытались переоснастить в учебную. Это занятие и для берега, где есть все необходимое оборудование, опасное, а на глубине, в отсеке ПЛ, и вовсе рискованное. Первый взрыв мог «разрядить» не менее 100 кг тротила.

Как ни трудно профессионалам представить эту ситуацию, она все же могла иметь место, учитывая, сколь бардачна сегодняшняя военно-морская служба, когда чего ни хватись — ничего нет. И в том числе — денег на ремонт кранов.

«Мина» под флотские краны (а значит, и под весь стратегический подводный флот) была заложена еще в приснопамятные дни раздела Союза. Единственный завод — поставщик пневмоколесных кранов для перегрузки стратегического оружия оказался за границей, в городе Одессе. Оттуда, из ООО «Истриан», и пришло в июне 1998 года первое уведомление о том, что завод приостановит производство и ремонт кранов для России, если не будут перечислены соответствующие средства. Средства, естественно, не перечислили. Более того, в правительстве задумались: а стоит ли оплачивать рабочие места в чужом государстве, когда можно в своем такое производство наладить. И контракт с «Истрианом» был разорван. Следствием чего уже в феврале 1999 года стало письмо главкома ВМФ адмирала Куроедова на имя первого заместителя министра обороны Михайлова:

«Докладываю. В Военно-Морском Флоте сложилась критическая ситуация с технической готовностью пневмоколесных кранов, выполняющих работы по перегрузке стратегического вооружения. В настоящее время в ВМФ имеется стотонных кранов — 14 единиц (КС-8362) и сорокатонных кранов — 63 единицы (КС-5363). Из них исправны только 3 крана КС-8362 и 17 кранов КС-5363. Остальные краны неисправны и требуют ремонта и списания.

*В результате на Северном флоте все работы по погрузке-выгрузке БРПЛ (баллистических ракет подводных лодок), в том числе в случае создания аварийной ситуации, проводиться не могут».*

Михайлов изложил эту историю тогдашнему первому заму премьера Маслюкову и министру финансов Задорнову. После продолжительной (около года!) переписки больших чинов и малых клерков дело кончилось «пшиком».

Таким образом, пока «губерния писала», К-141 успела полгода честно отработать в арктических широтах и, ткнувшись в опечатанные краны, ушла в свой последний поход.

Кого казнить, с кого срывать погоны? С адмиралов? Но то, что Куроедов и его подчиненные постоянно долбили минобороны, правительство раскаленными добела телеграммами — это факт. Не бездействовали вроде



бы и те, к кому они обращались. В колокола громкого боя били депутаты... А в сухом остатке — опечатанные краны ВМФ.

Все шумим о внешней угрозе, в военной доктрине готовимся к происками *NATO*, грешим на американские субмарины, нарушающие правила подводного движения, но как-то упускаем из виду, что главный враг России — мы сами. Лишь одно звено в цепочке стратегической безопасности выбило — какие-то, прости Господи, краны, а параличом разбило весь подводный атомный стратегический флот России. Третий год могучая держава чешет в затылке — как эту майну-виру наладить. И нет решения. Тупик. Остается только удивляться, зачем американцам надо возиться с какими-то СНВ-2, СНВ-3, когда русские впечатляюще доказывают, что могут разоружаться и в одиночку, причем самыми оригинальными способами.

А ребят с К-141 не вернешь. Они честно выполнили приказ. Один из тех преступных приказов, на которые так щедра Родина. ■

# Коран написан кровью Саддама Хусейна

Президенту Ирака Саддаму Хусейну вручен экземпляр Корана, написанный его собственной кровью, передает корреспондент РИА «Новости» со ссылкой на воскресный выпуск иракской газеты «Аль-Джумхурийя».

Еще в 1997 году, в день своего шестидесятилетия, иракский президент дал поручение группе калиграфов и улемов написать его кровью текст священной для мусульман книги. Таким образом Хусейн намеревался отблагодарить Аллаха за то, что он позволил ему избежать опасностей в жизни.

Как известно, Коран содержит около 336 тысяч слов, однако газета не сообщает, сколько крови понадобилось сдать Хусейну за эти три с половиной года, чтобы выполнить свой обет. ■

# Интерпол составил базу данных на российскую оргпреступность

Международная организация Интерпол составила базу данных, в которую включена информация о находящихся за пределами России 35 тысячах «подставных компаний» и лицах, подозреваемых в связях с российской организованной преступностью.

По сообщению РИА «Новости», база данных получила высокую оценку правоохранительных органов США. Ее уже называют «моделью будущего» для обмена информацией между различными странами.

При помощи этой базы данных ФБР уже удалось обнаружить сведения о покупках недвижимости, произведенных выходцами из России в Колумбии. Об этом пишет американский журнал *US News & World Report*. ■

# Пятница — день без автомобиля

В 700 европейских городов в пятницу проводится день без автомобиля. Примерно 65 млн. человек предлагается оставить машину на стоянке и отправиться на работу, учебу, свидание или по иным делам на других видах транспорта. Цель этой ежегодной акции — сократить выбросы вредных веществ в атмосферу, предоставить хоть на один день больше пространства пешеходам и велосипедистам. Контроль за загрязнением окружающей среды автомобилями показал, что в 1999 году оно возросло на 15%, если считать количество выявленных нарушений. Рост за год случаев превышения звуковых норм машинами — с некоторых пор этот показатель также введен в европейских странах — оказался еще выше: плюс 55,4%. Франция, которая в текущем полугодии председательствует в Европейском Союзе, ввела довольно жесткие условия проведения дня без автомобиля, распространенного на 70 французских городов. Определены даже зоны, куда с 7 часов утра до 8 часов вечера въезд машинам вообще запрещен. В Париже таких районов четыре. ■

